20 снежня 1994 г.
Аўторак
№ 137(13854)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЗ ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

У НУМАРЫ:






Малюнак І.АМЕЛЬЯНОВІЧ.



*Пасля ўрокаў.*

Фота Сяргея БРУШКО.

## Кур'ер "ЧЗ"

### НОВЫ ГОД СУСТРЭНУЦЬ РАЗАМ

***Разам адсвяткуюць навагоднія святы школьнікі многіх брэсцкіх школ і іх шэфы — салдаты і афіцэры 50-й асобнай механізаванай брыгады.***

Прадстаўнікі воінскіх калектываў пабывалі ў школах і дамовіліся аб сумесных ранішніках і вечарах. У дапрызыўнікоў з'яўляецца рэальная магчымасць пераканацца, што і ў арміі, якую нярэдка малююць чорнай фарбай, ёсць месца і для творчасці, і для паўнацэннага адпачынку.

### ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА КІНО

***Улічваючы значны ўклад беларускай кінематаграфіі ў адраджэнне нацыянальнай, культурнай і гістарычнай спадчыны, Прэзідэнт Беларусі выдаў указ, у якім пастанавіў: абвясціць 17 снежня Днём беларускага кіно і адзначаць яго штогод як прафесійнае свята.***

### ДАРАГАЯ ПРАПАЖА

***На 160 мільёнаў рублёў прамых страт нанеслі невядомыя злачынцы гродзенскаму вытворчаму аб'яднанню "Хімвалакно".***

Адміністрацыя аб'яднання заявіла ў міліцыю аб прапажы з цэха дваццаці прыбораў для вымярэння супраціўлення. Прыборы ж — не простыя, а змяшчаюць у саставе многа каштоўных металаў. Яны і прывабілі грабежнікаў. Цяпер тэхналагічная лінія, пакінутая ў рэзерве і без аховы, наўрад ці ажыве і пачне дзейнічаць у бліжэйшы час.

### ПАДДАЙ ПАРЫ, "ДЗЯДОК"!

***"Выязджаць" з энергетычнага крызісу ў Магілёве вырашылі на старых паравозах пасля шматгадовай іх кансервацыі.***

Адзін з іх падключаны для забеспячэння работы пральні чыгуначнага вузла і ацяплення адміністрацыйнага будынка дырэкцыі па абслугоўванню пасажыраў. Здарылася так, што цеплатрасу сюды не праклалі — не было сродкаў. Вось і выручыў стары лакаматыў. Па прыкладу чыгуначнікаў цеплавую праблему пачалі вырашаць тым жа шляхам і прамысловыя прадпрыемствы. Шклоўская мэблевая фабрыка ўзяла з Магілёўскага дэпо "запаснікі" для выпрацоўкі пары на тэхналагічныя патрэбы. На прадпрыемстве падлічылі, што арэнда яго будзе каштаваць у некалькі разоў танней, чым цяпло, якое прыходзіцца купляць па высокай цане. Чым добрыя "дзядкі", дык гэта сваёй непераборлівасцю ў паліве. Для іх падыходзяць мазут і вугаль, а таксама звычайныя дровы.

**БЕЛІНФАРМ.**

### ДЭЛЕГАЦЫЯ З ЭСЛІНГЕНА

***У Маладзечна на працягу тыдня знаходзілася маладзёжная дэлегацыя з нямецкага горада Эслінгена.***

Група з 12 юнакоў і дзяўчат пазнаёмілася з горадам, сустрэлася з гарадской моладдзю. І запрасіла маладых маладзечанцаў да сябе ў госці.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

### НАРКОТЫКІ – НЕ ВЫЙСЦЕ

***У апошнія гады на Беларусі стала вельмі вострай праблема наркаманіі і ўзрасла колькасць злачынстваў, звязаных з ёй, сярод падлеткаў.***

Як паказала сацыяльнае даследаванне, за перыяд з 1988 па 1993 год было зарэгістравана 86 непаўналетніх наркаманаў і 272 спажыўцы наркатычных сродкаў (г.зн. час ад часу ўжываючых наркотыкі). Каля ста непаўналетніх наркаманаў (ва ўзросце 14—17 год) былі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за ўчыненне злачынстваў у стане наркатычнага ап'янення і за супрацьзаконны абарот наркатычных сродкаў.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### ЗРУЧНАЯ МАГЧЫМАСЦЬ

***Нечаканую магчымасць наведаць магазін ноччу атрымалі нядаўна мінскія пакупнікі. У горадзе з'явіўся першы ў рэспубліцы кругласутачны універсам.***

Працаваць у позні час пачаў магазін "Юбілейны", работнікі якога ў красавіку гэтага года сталі яго ўласнікамі. Прычым, уначы тут можна купіць тыя ж прадукты, што і днём, і па тых жа цэнах, такіх, дарэчы, як і ў дзяржаўных магазінах. А акрамя беларускіх вытворцаў, багаты выбар прадуктаў у "Юбілейным" забяспечваюць зараз каля 300 замежных пастаўшчыкоў. Сёння універсам мае прамыя сувязі з фірмамі такіх краін, як Польшча, Бельгія, Германія, Англія, Чэхія, Славакія, Венгрыя.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

### САБАКА – ВОРАГ ЧАЛАВЕКА?

***Праўленне калгаса "Звязда" Чачэрскага раёна вымушана было звярнуцца да паляўнічых і спецыялістаў па адстрэлу ваўкоў, каб тыя за добрую плату дапамаглі пазбавіцца ад іншых чатырохногіх драпежнікаў — сабак.***

У апошні час зграі бяздомных "сяброў чалавека" ўсё часцей і часцей нападаюць на жывёлагадоўчыя фермы. Іх ахвярамі, як правіла, становяцца цяляты. А людзі падлічваюць страты — яны складаюць ужо дзесяткі мільёнаў рублёў. Начныя вартаўнікі не ў стане абараніць фермы з дапамогай звычайнай драўлянай палкі.

### РУСКА-АМЕРЫКАНСКІЯ ЗОРКІ У МІНСКУ

***16 снежня, на дзень пазней запланаванага тэрміну, на канцэртнай пляцоўцы спарткомплексу "Дынама" адбыўся адзіны ў сталіцы рэспублікі канцэрт зорак сусветнай велічыні— руска-амерыканскага гурта "Парк Горкага". Каманда іграе цяжкі рок і лірычныя блюзы, а жыве, працуе і выступае галоўным чынам на Захадзе.***

"Москоў калінг" — так называлася шоу-праграма, з якой "Парк Горкага" выступаў у Мінску.

Сталіца Беларусі ўваходзіла ў праграму вялікага турнэ каманды па гарадах Расіі і Латвіі, дзе іх цёпла сустрэлі аматары сучаснай музыкі.

Як было ў Мінску? Трэба спадзявацца, беларускія фэны былі такімі ж гасціннымі, як і іх "калегі" ў іншых гарадах былой "Краіны Саветаў". Зала спарткомплексу "Дынама", разлічаная на некалькі тысяч месцаў, была запоўнена амаль цалкам. Клубы штучнага дыму, каляровы свет, феерверк і музыка не пакідалі ў спакоі вялікую маладзёжную тусоўку. Апаратура "Маршал" — сведчанне сусветнага ўзроўню прэзентаванай музыкі. Пра ўсё гэта айчынным музыкам даводзіцца ў большасці выпадкаў толькі марыць. Застаецца дадаць, што канцэрт прайшоў на высокім арганізацыйным узроўні, і сталічная публіка, як і музыкі гурта "Парк Горкага", надоўга запомніць яго.

**Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.**

**Курсы валют на 19 снежня:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 9550 | 9850 | 6054 | 6300 |
| "Прыор" | 9550 | 9950 | 6060 | 6310 |
| "Дукат" | 9550 | 9900 | 6000 | 6300 |

ЮБІЛЕІ

*Іван ЧЫГРЫНАЎ:*

# "Я хачу правесці свой народ сцяжынамі яго гісторыі!"

***Народнаму пісьменніку Беларусі Івану Чыгрынаву 21 снежня спаўняецца 60 гадоў. Яго творчасць — выдатная з'ява ў беларускай і ўсёй славянскай літаратуры. Напярэдадні свайго юбілею Іван Гаўрылавіч даў інтэрв'ю Беларускаму інфармацыйнаму агенцтву.***

***— Іван Гаўрылавіч, перад тым, як ісці да вас на размову, перачытваў вашы творы, думаў над пытаннямі, каб пачаць з галоўнага...***

— А яго ніхто не сфармулюе. Ніколі. Нават на момант спыніцца на нечым кароткім немагчыма. Бо адразу ў ваччу і ў душы паўстае жыццё з яго праблемамі. А іх усё больш і больш, асабліва, калі яны ўсё цяжэй вырашаюцца, як у наш час. Таму пытай, як пачуваеш сябе, Іван Гаўрылавіч? Як заўжды, людзі пытаюцца, пачынаючы гаворку пры сустрэчы. Можа гэта і ёсць асноўнае пытанне. А я скажу: "Ды нічога. Толькі вось набліжаецца канец года. І неяк цяжка становіцца. Быццам бы на табе павіс цэлы свет". Адным словам, пісьменнік — гэта з'ява ў найбольшай ступені грамадская. Немагчыма адысці далёка ад жыцця. Бывае, пойдзеш уздоўж ракі, каб знайсці нейкі выток ці проста табе патрэбнае месца. Ідзеш, ідзеш, ужо і рака табе, здаецца, не патрэбна. Аддалілася яна. Ужо дакладна ведаеш, што выйдзеш туды, куды намерыўся. А рака зноў наблізіцца. Так і жыццё. Што б мы былі за грамадскія людзі — пісьменнікі, вучоныя, журналісты, палітыкі ўрэшце — каб не хвалявала нас усё гэта.

Мяне калісьці ўсе правакавалі пытаннем: палітык я ці не палітык. Канешне ж, пісьменнік — гэта таксама і палітык? Толькі ён адрозніваецца ад палітыка, як зараз прынята казаць, кар'ернага, у якога многае часта звязана з брудам, кампрамісамі, крайнасцямі, гульнямі. У пісьменніка ўсё гэта лучыцца з інтэлігентнай чысцінёй і эмацыянальнасцю. Таму яго высновы часта адрозніваюцца ад высноў палітыкаў-прафесіяналаў, якія нярэдка і грамадства, і само жыццё падганяюць пад свае ідэі і фармулёўкі. Збудуюць палітычную, ідэалагічную канструкцыю і гоняць у яе цэлы народ. Мы і на сваім вяку гэта бачылі не раз.

У нас — у творчай інтэлігенцыі — усё гэта звязана з чысцінёю помыслаў. Знарок на гора людское, на спекуляцыю пісьменнік ніколі не пойдзе.

Вось таму, пэўна, перад Новым годам, калі ўзважваеш тое, што адбылося ў нашай краіне, і цягне на роздум. Усё-такі мы грамадскія натуры. І без грамадскага мыслення, без грамадскай "работы" жыць немагчыма.

***— Кажуць, што 60 гадоў — гэта рубеж, на якім зручна агледзецца, падсумаваць, што зроблена. Ці ўсё гэта — пра рубеж — журналісты прыдумалі?***

— Не, гэта не прыдумка. Ёсць нейкая біялагічная закончанасць, акрамя ўсяго. Кожны чалавек да пэўнага часу заканчвае сваю нейкую значную работу. Многія людзі прыходзяць да гэтай даты з адчуваннем, што нешта ўжо зроблена, што прыйшоў з добрым грузам да нулявой адзнакі, калі можна будзе даць сабе палёгку і абдумаць нешта на будучыню. Так, за 60 гадоў я паспеў не толькі пажыць, але і папрацаваць. Праўда, аказалася, што жыццё вельмі кароткае. У дваццаць гадоў здавалася, што сорак гадоў — край свету, у трыццаць — што пяцьдзесят. А зараз думаеш, што яшчэ ёсць і восемдзесят... Я ўспамінаю, як Кандрат Кандратавіч Крапіва, заканчваючы прамову на сваім дзевяностагоддзі сказаў: "А цяпер запрашаю вас на сваё стагоддзе". Тады ўсе пасмяяліся, а пасля пацешыліся яго мудрасцю. Ён жа і для нас гэта сказаў. Што трэба дажыць. Працуючы над раманамі пра мінулую вайну, я змог выйсці на новыя далягляды. У жанравым сэнсе, у ідэйным, проста ў мастацкім сэнсе. Як на прыродзе, часам. Думаеш, дайду да той мясціны напрасткі. Пасля ўзбярэшся на адзін узлобак, на другі, перад табою адкрываюцца такія сцяжыны, што пачынаеш ісці не так, як уздумаў, а трымаешся той сцежкі, якая здалася найлепшай. Вось так я прыйшоў да драматургіі...

***— Давайце трохі засяродзім увагу на вашых ваенных раманах "Плач перапёлкі", "Свае і чужынцы", "Апраўданне крыві", "Вяртанне да віны". Чаму вайна, якую вы пазналі хлапчуком, заняла такое значнае месца ў вашай творчасці?***

— Пра вайну напісана шмат. І многае з таго, што напісана, ляжыць мёртвым грузам. Не стану гадаць, сціпла гэта ці не сціпла, але скажу, што я яшчэ ў маладыя гады адчуваў: пра вайну пішуць не так. Пасля маладыя тады пісьменнікі — Бондараў, Кандрацьеў, наш Быкаў — пачалі пісаць пра акопную вайну. Усё гэта было зроблена цікава. Дый час патрабаваў. Але былі людзі не толькі на вайне, але і ў вайне. Мяне больш за ўсё займала тое, як яны паводзілі сябе пад акупацыяй. Чаму адны ішлі ў лес, другія сустракалі немца з задавальненнем, трэція прыглядаліся, што будзе далей...

***— Вы засяродзілі ўвагу на тым, пра што не пісаў ніводзін беларускі пісьменнік: на непрыняцці народам чужынцаў, на пасіўным супраціўленні...***

— Размовы пра прыняцце ворага, непрыняцце ворага — усё гэта выдумка крытыкаў, палітыкаў, розных партыйцаў. Ніводзін народ, які ведае сабе цану, не прыме гвалту чужынца. Гэты выбар народам зроблены быў не ў час вайны, а яшчэ тады, калі ён толькі пачынаў жыць. Ніводзін дастойны чалавек не змірыцца з тым, што чужак прыйшоў у яго хату, зняў боты і свае анучы рассцілае. Будзе супраціўляцца. А якія формы прыме супраціўленне — іншая справа. І нам вядома, хто стаў рухавіком гэтага супраціўлення. У кожнага народа — сваё Барадзіно. У нас — гэта Хатыні...

*(Заканчэнне на 3-й стар.).*

## "Уорлднэт" — "Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "TV-5"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

ЧЗ

*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

### КОЛЬ СУПРАЦЬ ВАЕННАГА ЎМЯШАННЯ

***У Германіі адбудзецца пасяджэнне дэпутатаў.***

На парадку дня — пытанне аб высадцы нямецкіх салдат у Босніі. Федэральны канцлер Гельмут Коль выступае супраць увядзення нямецкіх войск. Ён заявіў, што ў складзе міратворчых сіл у Босніі могуць быць салдаты розных краін Еўропы, але не нямецкія. Урокі з мінулага Германіі, лічыць Коль, папярэджваюць яе аб неўмяшанні ў ваенны канфлікт.

### ПАДАРУНКІ "ПАЛЯЦЕЛІ" Ў РУМЫНІЮ

***У Англіі поўным ходам ідзе падрыхтоўка да Калядаў.***

Міжнародная арганізацыя абароны дзяцей адправіла з Англіі самалёт з падарункамі для дзяцей Румыніі. Калядныя сюрпрызы атрымаюць 17 тысяч маленькіх жыхароў гэтай краіны.

### У АЛБАНСКАЙ МЕНШАСЦІ – СВОЙ УНІВЕРСІТЭТ

***У Македоніі з'явіўся албанскі універсітэт.***

Паводле статыстыкі, у Македоніі пражывае да 23 працэнтаў албанцаў. Па іх патрабаваннях і быў створаны універсітэт, выкладанне ў якім вядзецца на роднай мове.

### ТУРКІ ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ ЧАЧНЮ

***Падзеі ў Чачні выклікалі ў Турцыі шматлікія пратэсты супраць дзеянняў Масквы.***

У Анкары тысячы дэманстрантаў выказалі салідарнасць з каўказскай рэспублікай у адстойванні яе незалежнасці.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

